# Адкуль мы гэта ведаем..?

Рэдка калі звяртаюся да матэрыялаў, якія публікуюцца ў штотыднёвіку заходнегерманскіх неафашыстаў — «Дойчэ Солдатэн Цайтунг». «Солдатэн Цайтунг» належыць да ліку тых газет, аб якіх добра ведаем, што могуць напісаць; тут порцыя фашызму пераплятаецца з порцыяй рэваншу. Калі мы заглянем у апошні нумар ад 1962 года, дык, зразумела, толькі дзеля таго, каб яшчэ раз упэўніцца, што ўсё тут па-старому. Хаця не! Дагэтуль рэдактары газеты атакавалі галоўным чынам нас — грамадзян сацыялістычных дзяржаў. Тым часам я чытаю знамянальнае інтэрв'ю з англійскім журналістам, Сефтанам Дэльмерам, аўтарам выданай нядаўна ў Англіі кнігі пад загалоўкам «Германія і я».

Кніга Дэльмера была, зразумела, толькі зачэпкай, каб правесці інтэрв'ю. Дэльмер змясціў у ёй проста свае ўражанні з пабыўкі ў гітлераўскай Германіі і пасляваеннай ГФР, у якой з'яўляўся англійскім карэспандэнтам. У аўтара не знойдзем выдумак. Апісаў тое, што бачыў, а бачыў шмат непакоячых падабенстваў паміж дзяржавай Адэнауэра і Гітлера. Назваў гэтыя падабенствы па імені і гэтым самым выклікаў вялікае нездаволенне рэдактараў «Солдатэн Цайтунг».

— Нам здаецца, пане Дэльмер, — спытаў яго адзін з рэдактараў газеты, — што вы не любіце немцаў. Ці так ёсць у сапраўднасці?

Раней, чым прыгадаць адказ Дэльмер, хачу звярнуць увагу чытачоў на сам тон запытання поўны ганарыстасці, пагрозы і ўсяго таго, аб чым добра памятаюць многія з часоў гестапаўскага мінулага III Райху. Мабыць урэшце панове з «Солдатэн Цайтунг» з'яўляюцца проста гэтымі ж самымі людзьмі? У ГФР усё можа здарыцца.

Дэльмер адказаў: — Гэта зусім зразумелая справа, што пэўныя колы ў Германіі дапускаліся страшэнных здзекаў. Не закідаю гэтага ўсяму нямецкаму народу.

Тады рэдактары спыталі, ці на думку Дэльмера немцы таксама і сёння з'яўляюцца небяспечным?

Дэльмер: — Не падлягае сумненню, што лічу небяспекай вось гэты ілюзіянізм, гэтую лёгкадумнасць, з якой немцы паддаюцца розным ілюзіям. Было б вялікай небяспекай, калі б гэтым нямецкім ілюзіяністам удалося ўцягнуць нас (англічан — Ул. Л.) у становішча, якое абсалютна нам не адпавядае...

«Дойчэ Цайтунг»: — Мы не зусім вас разумеем.

Дэльмер: — Можам сабе сказаць, што зусім немагчымай справай з'яўляюцца нейкія агрэсіўныя дзеянні супроць граніцы на Одры і Нысе. Аднак вельмі небяспечным фактам лічым няспыннае валкаванне гэтага пытання. Я прызнаў бы граніцу на Одры і Нысе неадкладна і без ніякіх засцярог; лічу, што мы павінны прынцыпова і рашуча выясніць немцам, што заходні мір, г.зн. англічане, амерыканцы, французы прызнаюць гэтыя граніцы. Трэба гэта зрабіць дзеля таго, каб немцы пазбыліся ў сувязі з гэтай справай усялякіх ілюзій.

Сефтан Дэльмер гаварыў далей у час гэтай цікавай размовы аб адсутнасці ў Заходняй Германіі правоў і грамадзянскіх свабод. «Калі ігнаруюцца правы звычайных людзей, — гаварыў ён, — дык няма таксама залішняй павагі да правоў суседніх дзяржаў».

З інтэрв'ю вынікае, што рэдактары «Дойчэ Цайтунг», замест таго, каб даваць запытанні, незразумела выражалі свае думкі гукамі, нагадваючымі «угм». Калі, аднак, на заканчэнне Дэльмер выразіў погляд, што хацеў, каб вялікая будучыня належала да светлай Германіі, знаходзячайся на гэтым самым маральным узроўні, што Англія, тады рэдактары гэтай газеты не вытрымалі і крыкнулі: Чаму вы не скажаце ясна, што ненавідзіце немцаў.

Справа сталася зусім яснай: Рэдактары «Солдатэн Цайтунг» павіншавалі б напэўна Дэльмера, калі б сцвердзіў, што вялікую будучыню Германіі бачыць у стальных панцырах, гарматах і танках, накіраваных на ўсход, што бачыць яе з лозунгам «Дранг нах остэн» і заклікам «ібэраллес».

Такую будучыню Германіі бачаць, менавіта, рэдактары гэтай газеты. Толькі ўсё гэта якраз ілюзіі, аб якіх гаварыў Сефтан Дэльмер.

Як бачым, часам варта заглянуць у такія часопісы, як «Солдатэн Цайтунг», хаця б дзеля таго, каб пачуць водгулле памёршага мінулага, якое з такімі натугамі намагаюцца ўваскрэсіць неафашысты ў дзяржаве Адэнауэра.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

## ВЕСТКІ з БССР

### ВЫДАННІ

У Дзяржаўным выдавецтве Беларусі выйшлі «Беларускія народныя песні» (са зборнікаў Шэйна). Кніга налічвае 432 старонкі.

Рыхтуецца да друку «Дыялектычны атлас беларускай мовы». У атласе картаграфуецца матэрыял 1027 населеных пунктаў. Рыхтуе атлас Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук БССР.

Таксама гэты інстытут вядзе працу над выданнем двухтомнай «Граматыкі беларускай мовы» (першы том — марфалогія — меў выйсці ў канцы мінулага года). Гэта будзе першая ў беларускім мавазнаўстве нарматыўная граматыка беларускай літаратурнай мовы акадэмічнага тыпу.

Штораз большае зацікаўленне выклікае беларуская літаратура за межамі Беларусі. І так, наш «ПІВ» уключыў у свае планы на бліжэйшы час выданне аповесці В. Быкава «Трэцяя ракета». У Балгарыі выйшаў зборнік вершаў Янкі Купалы, а ў Румыніі — трылогія Якуба Коласа «На ростанях».

### ФІЛЬМЫ

Нядаўна дэлегацыя Беларускай ССР на XII генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКО ў Парыжы (Арганізацыя Аб'яднаных Нацый па пытаннях асветы, навукі і культуры) арганізавала паказ беларускіх кароткаметражных фільмаў: «Мой горад», «Раніца жыцця», «Беларускія ўмельцы» і «Белавежская пушча».

Беларускія кінафільмы былі цёпла і з вялікай цікавасцю сустрэты шматлікімі гледачамі.

### ВЫСТАЎКА

Англійскі горад Нотынген — горад — друг Мінска. Мінчане і нотынгенцы абменьваюцца дэлегацыямі дружбы, знаёмяць адзін аднаго з культурнымі дасягненнямі сваіх народаў. Нядаўна ў Нотынген выслана на выстаўку малюнкі дзяцей Беларусі.

### МАЛАДЫЯ ТВОРЦЫ



Мікалай Гвоздзікаў не толькі адзін з найлепшых маляроў Віцебскага домабудаўнічага камбіната, але і мастак і паэт. Яго вершы друкуюцца ў альманасе «Дзвіна». Шматлікія словы яго вершаў пакладжаны на музыку. М. Гвоздзікаў захапляецца таксама жывапісам. Ім напісана звыш 200 карцін і эцюдаў.

На здымку: М. Гвоздзікаў і самадзейны кампазітар Я. Касалапаў за працай над новай песняй.

## Спорт

### Валейбол

У мінулую нядзелю адбыліся першыя гульні чэмпіянату II лігі па валейболу варшаўскай групы, у якую, як вядома, уваходзяць дзве беластоцкія каманды — неаднаразовы ўдзельнік чэмпіянату «Гвардыя» і навічок «АЗС». Адразу беластачане «напаліся» на фаварыта групы — «Варшавянку», у якой складзе аж кішыць ад валейбольных асаў, якія неаднаразова выступілі ў зборнай краіны, а двух з іх — Тамашэўскі і Гедыга — з'яўляюцца ўдзельнікамі чэмпіянату света ў Маскве. Ясна, што беластачане не мелі ніякіх шанцаў у гульні з такім моцным праціўнікам. І «АЗС» і «Гвардыя» прайгралі з «Варшавянкай». Але калі з беластоцкімі студэнтамі варшавяне разлічыліся «гладка» (3:0), то перамога над «Гвардыяй» далася ім не лёгка (3:2). Гэта добры прагноз на далейшыя гульні немаладых ужо беластоцкіх «гвардзейцаў». Аб гэтым гаворыць і іх лёгкая перамога з рэзервамі варшаўскай «Легіі». Зрэшты, «Легію» лёгка прайграў і «АЗС».

### Фехтаванне

Таксама ў мінулую нядзелю ў беластоцкай галі «Ягелёніі» адбыўся традыцыйны ўжо зімовы турнір фехтавальшчыкаў. Такога турніра яшчэ ў Беластоку не было. Дастаткова сказаць, што ўдзельнічала ў ім аж 4 чэмпіёнаў свету. Перамог прадстаўнік «Легіі» Пёнткоўскі. З беластачан найлепей выйшаў Кандрацюк, які заняў 6 месца. Гэта несумненна не малы поспех маладога беластачаніна, зважыўшы, што турнір абсаджаны быў такімі спартыўнымі знамянітасцямі як Пёнткоўскі, Паўлоўскі, Заблоцкі і Ахыра.

### Футбол

Генеральны сакратарыят ФІФА паведаміў, што на алімпійскі турнір у 1964 г. даў заяўкі рэкордны лік каманд (67). Як вядома ў Токіо гуляць будзе толькі 16 каманд, якія вызначацца ў элімінацыйных гульнях. У канцы студзеня ФІФА падасць да ведама сістэму гэтых элімінацый.

Чытачам, якія цікавяцца савецкім футболам, паведамляем некалькі цікаўнасцей. У мінулагоднім чэмпіянаце краіны было забіта 874 мячы. Для параўнання скажам, што год раней за той жа лік матчаў было забіта 987 голаў. Гэта сведчыла б, што ў мінулым годзе ў тактыцы савецкіх каманд выявіліся абарончыя тэндэнцыі.

У мячоў, забітых у 1962 г, 238 аўтараў. Сярод іх 172 нападаючыя, 36 паўабаронцы і 20 абаронцаў. Найлепшымі бамбардзірамі чэмпіяната аказаліся маскоўскі спартакавец Ю. Севідаў, бакінец Э. Маркараў, Б. Казакаў з «Крылляў саветаў» і М. Мустыгін з Беларусі. Забілі яны па 16 мячоў. Варта адзначыць тут поспех беларускага футбаліста. Мустыгін гуляў у 26 матчах, падчас як Севідаў, Маркараў і Казакоў прынялі ўдзел у 30 гульнях кожны.

Шмат было спрэчак вясной аб тым, якая група мацнейшая. Мы гаварылі, што другая. Фінальныя матчы пацвердзілі нашу думку. Каманды першай групы набралі 55 ачкоў, а каманды другой — 89. Пераканаўча! Пры гэтым, як выявілася, у другой падгрупе гулялі усе 3 прызёры чэмпіяната — «Спартак» і дынамаўскія калектывы Масквы і Тбілісі. А як вядома ў гэтай групе гулялі беларускія футбалісты, якія па віне дрэннай сістэмы амаль не выбылі з першага эшалону.

Аут




### ГОСЦЬ

Пераканаўшыся, што чалавека ў чырвонаармейскай шапцы затрымалі, стары накіраваўся да дома з агародчыкам. Пастаяўшы перад дзвярыма, з якіх гадзіну раней выйшаў незнаёмы, ён рашуча пастукаў. За дзвярыма пачуліся крокі.

— Хто там? — спытаў голас.

— Госць.

— Дзверы адчыніліся. На парозе стаяла пажылая жанчына.

— Дома ваш кватэрант?

— Няма. — Жанчына хацела закрыць дзверы.

— Хвілінку! Мне, уласна, не яго самога... Разумееце, мы з ім сябры, і я прынёс па яго даручэнню... Вось! — Стары працягнуў маленькі скрутак.

— Давайце, я перадам. — Жанчына выставіла руку.

7

— Калі ласка, — сказаў стары, ступіўшы наперад, але не выпускаючы скрутка з рук. — Але я б хацеў і запісачку... Дзе яе напісаць? Можна прайсці ў яго пакой?

Жанчына моўчкі паказала на дзверы. Стары піхнуў і апынуўся ў маленькім пакойчыку. Ля сцяны стаяў жалезны ложак, пад ім дыктавы чамадан, каля адзінага акна — столік і табурэт.

Стары сеў за столік, выняў блакнот і каранадаш. Ён не спяшаўся, доўга выводзіў літару за літарай. Жанчына стаяла ля дзвярэй, назірала.

У калідоры нешта зашыпела.

— Здаецца пахне гарэлым, — сказаў наведвальнік, нюхаючы паветра. — Гэта не ў вас?

Гаспадыня охнула, кінулася да дзвярэй. Пачуўся грукат каструль.

Праз мінуту, калі жанчына зноў з'явілася ў пакоі, стары сядзеў у той жа позе, але ўжо не пісаў.

— Баюся, што сябра наблытае, — сказаў ён. — Ведаеце, лепей я зайду потым і ўсё вытлумачу. Калі ён прыходзіць?

— Хто яго ведае! — Гаспадыня паціснула плячыма. — Вечарам прыходзіць, позна...

— Ну і цудоўна. Вечарам зайду.

І наведвальнік сунуў скрутак у кішэню і пайшоў.

### НА БЕРАЗЕ МОРА

Пад вечар стары з'явіўся на вакзале. А праз гадзіну электрычка даставіла яго на маленькую

8

станцыю. Адсюль было рукой падаць да сяла на беразе мора.

— Слава табе, усемагутны, — прашаптаў стары, адкрываючы дзверы невялікага доміка, што стаяў на беразе мора.

Ён увайшоў, старанна замкнуў за сабою дзверы і з уздыхам палёгкі апусціўся на ложак. Хацелася есці, мучыла прагнасць, але не было сіл устаць, каб распаліць агонь і згатаваць вячэру. Работа агента навучыла яго нічаму не здзіўляцца. І ўсё ж апошняе заданне ашаламіла. Расшыфраваўшы радыяграму, ён звыш гадзіны сядзеў за сталом, не ведаючы, што і думаць. У самай справе. каму і навошта спатрэбілася выдаць савецкім уладам такога ж агента, як ён? Ён вырашыў адлажыць выкананне задання, пакуль не атрымае пацвярджэння. Яно неўзабаве прыйшло. Трэба было дзейнічаць. У пятніцу ён пайшоў у горад і ў поўдзень быў ля кас кінатэатра «Баку». Як указвалася ў радыяграме, па пятніцах і суботах у гэту пору тут павінен чакаць сувязнога Аляксандр Шчуко. Стары апазнаў яго, прасачыў дзе жыве. Затым вярнуўся да сябе, распрацаваў план аперацыі.

Увесь гэты час ён не пераставаў думаць над прычынамі, якія прымусілі разведку выдаць свайго агента.

Раптам старога ашаламіла думка: выконваючы загад, ён сёння выдаў нейкага агента. Ну, а заўтра? Чыя чарга будзе заўтра?

Стары з цяжкасцю падняўся на ногі. Ён ледзь

9

# Нейлонавы сеўнік

(Працяг са стар. 1)

без ніякіх цяжкасцей дабываюць сабе ежу. Найбольш дакладным бараваннем не зможам прыкрыць уручную раскінутага зерняці, што не спрыяе яго ўзыходу. Затым «нейлонавы сеўнік» на аднолькавай плошчы шмат больш «з'ядае» насення ад нармальнага жалезнага, а ўраджай...

**Спецыялісты аблічылі, што ў мінулым годзе Беластоцкае ваяводства на стасаванне «нейлонавага сеўніка» патраціла каля 60 тыс. тон збожжа. Так, гэта не памылка ў друку. ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ТЫСЯЧ ТОН!** Пералічыўшы на вартасць жыта (па 230 злотых за цэнтнер), атрымаем галавакружную суму **СТА ТРЫЦЦАЦІ ВАСЬМІ МІЛЬЁНАЎ ЗЛОТЫХ! Вось якое багацце нашыя хлебаробы лёгкай рукой** (літаральна!) **выкідаюць у зямлю. Толькі каштуе прымяненне «нейлонавага сеўніка».**

Моцна і несправядліва пакрыўдзіў бы я хлебаробаў, каб шукаў прычын мільёнавых затрат толькі ў адсталасці сялян, у іхняй глыбокай схільнасці да каробачкі і плахты, хаця б яны былі і з нейлона. Ёсць і другі бок гэтай справы.

Зараз, каб нават усе хлебаробы раптам захацелі сеяць пры дапамозе сеўнікаў (тых праўдзівых), яны не змаглі б, на жаль, прывесці ў рэчаіснасць сваіх намераў. Проста не хапіла б сеўнікаў. Актуальна на кожныя 100 гектараў зямельных угоддзяў у Беластоцкім ваяводстве не прыпадае нават па пяць сеўнікаў. Прагрэс у гэтай галіне зусім незадавальняючы. На працягу апошніх дванаццаці гадоў на кожныя 100 гектараў зямлі ў Беластоцкім ваяводстве прыбыло ледзь па тры сеўнікі.

Сеўнік, вядома, не плуг. Належыць да машын больш скамплікаваных і таму цана на яго адносна высокая. Не кожны гаспадар можа самастойна сабе купіць яго. Большасць сеўнікаў астаецца тады ў руках багатшых сялян.

Вось тут і адкрываюцца магчымасці дзеяння для сельгасгурткоў. **Яны ў першую чаргу павінны забяспечыць хлеборобаў гэтымі асноўнымі ў сельскай гаспадарцы машынамі.**

На Беласточчыне, а перш за ўсё ў яе паўднёва-усходніх раёнах, шмат яшчэ палосак. Зямля разбітая на вузенькія загончыкі — «чэцвертушкі», «шэстухі», а нават «васьмухі». Цяжкія трактарныя сеўнікі, якія найчасцей атрымоўваюць сельгасгурткі ў складзе машына - трактарных камплектаў, на такіх палосках амаль зусім непрыгодны. Беласточчыне патрэбны сеўнікі на 16—13 радкоў, якія можна было б непасрэдна падвешваць да трактараў або цягнуць коньмі. Такіх сеўнікаў аднак нідзе не дастанеш. Заводы сельскагаспадарчых машын так хутка пайшлі «наперад» у сваёй прадукцыі, што зараз не выпускаюць такога роду сеўнікаў. Яны неяк не бачаць патрэбы прадукавання лёгкіх машын для рассявання збожжа. Тады хлебаробу — ці ён хоча, ці не хоча — астаецца сеўнік... з нейлона. Такім сеўнікам абсявае ён свой вузкі загончык, выкідаючы зусім несвядома мільёнавае багацце ў зямлю разам з залацістым зернем.

**138 мільёнаў злотых чакае. Трэба падняць іх.**

**ВІКТАР РУДЧЫК**



Гарнякі Беласточчыны «фэдруюць». Злева — Лявонь Лаўнічук з Лявонявіч і Ян Арлоўскі з Беластока.

# ГАР... ТАБЕ,

(Працяг са стар. 3)

пальні, — сказалі мне ў дырэкцыі. — Там у нас перадавыя аддзелы і там найбольш гарнякоў з Беласточчыны.

Першая змена пачынае працаваць у 6 гадзін раніцы. З дома гарняка да з'ездавай вышкі «Заходняга поля» ідзецца 10 мінут.

У адміністрацыйным будынку «Заходняга поля» чакаў на мяне старшы інспектар БГП капальні — Ян Ліс. Мы пазнаёміліся. Ян Ліс стары гарняк. У капальні ён ужо перапрацаваў звыш 40 гадоў. Мог бы ўжо даўно пайсці на пенсію. Але пакуль яшчэ Ян Ліс зусім не думае аб пенсіі.

— У нас жа большасць працуе моладзі, — кажа Ян Ліс. — А моладзь, як гэта моладзь, гарачая, неасцярожная. У капальні аб выпадак лёгка. Дык я і служу ім сваім вопытам. Захоўванне правіл БГП — гэта найважнейшая рэч у гарняцкай працы.

— Ну а вы, рэдактар, не баіцеся з'язджаць пад зямлю?

— З вамі, — кажу, — не, але адзін...

— Аднаго дык мы б вас і зусім не пусцілі. Ну, дык пашлі апранацца.

— А я ж апрануты.

— Вопратку сваю пакінеце ў шкафчыку. Надзенеце гарняцкую. Пад зямлю інакш нельга, — коратка сказаў інспектар.

За хвіліну я ад самай бялізны аж па каску на галаве быў пераапрануты ў гарняка.

— Ну вось, вы і сапраўдны гарняк. Паглядзіце толькі ў люстэрка, — сказаў Ян Ліс, смеючыся.

Мы прайшлі ў аддзел, дзе выдаюць гарняцкія прылады. Нам уручылі гарняцкія ліхтары, забеспячальныя прыборы на выпадак выбуху газаў і кантрольныя маркі. Маркі такія атрымоўвае кожны, хто з'язджае пад зямлю. Пасля работы, калі змена ізноў выедзе на верх, спраўджаюць маркі, і ў выпадку нейкага няшчасця адразу вядома, хто з-пад зямлі не выехаў. Каля з'езднай вышкі стаіць натоўп гарнякоў. Твары ў іх строгія, засяроджаныя. Зараз пачнецца з'езд.

У кожную клетку змяшчаецца 12 чалавек. Пры кожным з'ездзе чатыры такія клеткі. Я паглядаю на тоўсты з чалавечую руку сталёвы канат, на якім падвешаны клеткі.

— Надзейны, — кажа інспектар. — Яшчэ не было выпадку, каб ён сарваўся.

Апошні званок і клеткі плаўна асядаюць уніз. У вушах, быццам нехта залажыў засланкі, і ўражанне зусім адваротнае. Здаецца не ўніз, а ўгару едзеш.

— Дыхайце ротам, — падказвае інспектар, — бо можа слых пашкодзіць.

Я, быццам рыба выкінута на бераг, шырока раскрытымі вуснамі пачаў глытаць паветра. І сапраўды зрабілася лягчэй.



Інтэрв'ю ў падзямеллях «Сасніцы». Злева — інспектар — Ян Ліс, аўтар артыкула і штыгар — Станіслаў Коваль.

— Нічога, — стукае мяне па плячы інспектар, — гэта так з кожным, хто першы раз з'язджае. Пасля прывыкаюць.

Раптам клетка затрымалася. Расчыніліся дзверы. Відна. На сценах тунеля заінсталявана электрычнае святло.

Зараз мы знаходзімся пад зямлёй на глыбіні 600 метраў, — паясняе інспектар.

Я разглядаюся. Унізе пралажанае палатно чыгункі. Уверсе напіс паведамляе: «Пасажырскі вакзал №1». Пад'ехаў электрацягнік. Мініятурны такі. У вагончык сядае восем чалавек. Мы хутка размясціліся і паехалі.

— Да «пшодка» дзе «фэдруюць» вугаль кіламетраў 15, — кажа інспектар. — А калі б злучыць усе такія тунелі нашай капальні, дык атрымалася б кіламетраў 130. Пакуль даедзем, можна і газету прачытаць.

І сапраўды выняў з кішэні газету і, прысвечваючы ліхтаром, пачаў чытаць. А я разглядаўся. Аднак пабачыць тут шмат чаго не было. Цёмны тунель. Што некалькі дзесяткаў метраў на вугальнай сцяне — тэлефон. Гэта ў выпадку нейкага няшчасця, каб хутчэй паведаміць верх. Прайшло паўгадзіны і цягнік затрымаўся.

— Далей пехатой пойдзем, — выясніў інспектар.

Гарняцкія ліхтары кідаюць у цемнату снапы святла. Па баках крышталамі паблісквае вугаль. Уверсе серабром пераліваюцца замерзлыя саляныя сопелькі. Уражанне, быццам знаходзішся ў нейкай казачнай краіне.

— Не падымайце толькі рукі ўверх. Каб да электраканата не дакрануцца. Там высокае напружанне, смерць! — прыклікае мяне да рэчаіснасці інспектар. Я міма волі прыгнуўся і скурчыўся. Па нейкім часе дайшлі мы да месца, дзе з ленты транспарцёра ў вагончыкі сыплецца вугаль. Тут я пазнаёміўся са штыгарам — Станіславам Ковалем.

# ПРЫ ЛЕСЕ НА ХУТАРЫ

(Працяг са стар. 1)

— Паночкі мае, ніколі яны не прыходзілі да нас. Няма іх у нашай аколіцы, — адказала маці, хоць спалоханым, але пераканаўчым тонам.

Немцы нічога больш не пыталі пра партызан. Сказалі зрабіць ім хутка снеданне, а самі пачалі гутарку з прыгожымі дочкамі Фірсовічаў.

Цяжкія былі гэта мінуты для сям'і Фірсовічаў. Усе баяліся, каб немцы не пайшлі да клуні, або каб партызанам не захацелася згладзіць іх з твару зямлі. А пасля такога выпадку з сям'ёй Фірсовіча, з суседнімі хутарамі, а намат з вёскай Відава магло стацца тое ж самае, што сталася з Райскам і яго жыхарамі. Але абышлося як найлепей. Надзя і Насця слухалі, што гавораць немцы, а потым давалі ім розныя пытанні. Немцы наеліся і пайшлі назад туды, адкуль прышлі.

* ✲ *

У гэты вечар малодшая дачка Фірсовічаў, Насця, вяла ажыўленую гутарку з партызанскім камандзірам.

— Для вас я маю маленькі падарунак, — сказала яна і выбегла з хаты. Група партызан з зацікаўленнем чакала Насцю з падарункам.

Праз некалькі хвілін уваходзіць Насця ў хату з карабінам на плячах і горда заяўляе: — «Я ведаю, што зброя вам патрэбна.»

— Вось здарава, вось і маладзец, — пачуліся галасы. Партызанскі камандзір узяў карабін і пацалаваў Насцю ў шчоку. Гэты пацалунак крыху збянтэжыў Насцю, але для яе ён быў чымсьці незабыўным.

Даведаўшыся ад сваіх сувязных, гэта значыць ад Шымона, Насці, Надзі і Зіновія Фірсовічаў, што чуваць у аколіцы, накіраваліся яны на чарговае заданне. На світанні гарэў мост на рацэ Арлянка.

* ✲ *

Стуканне ў акно прабудзіла бацьку, Зіновія Фірсовіча. — Маці, — гаворыць ён да жонкі, — паслухай, стукаюць.

Але стук гэты быў нейкі няўпэўнены, іншы, незнаёмы. Еўфрасінія падышла да акна і бачыць узброеных людзей.

— Цётачка, дайце кусочак хлеба, мы надта галодныя, — пачуўся пакорны, цвёрды голас.

— Не, гэта не партызаны, не партызаны, — пераконвала яна сябе.

— У нас такі прыказ, што мы не маем права нікому нічога даваць. І я вам нічога не дам, — сказала яна.

Яшчэ некалькі раз стукалі яны ў акно, прасілі хлеба, але Еўфрасінія адышла ад акна. Потым зноў усё заціхла. Чуваць толькі было, як гнеўна шумеў галадоўскі лес, які ад хутара Фірсовічаў знаходзіцца не больш як 300 метраў.

* ✲ *

Было гэта на Сёмуху. Паводле традыцыі сяляне на Бельшчыне ў гэты дзень клічуць гасцей, або самі гасцьмі з'яўляюцца. На хутары ў Фірсовічаў таксама былі госці. Прышлі яны з лесу. На стале паявіўся пірог, мяса, каўбаса, самагонка. Разам з сям'ёй Фірсовіча кругом стала сядзяць партызаны. Зрабіўшы па чарачцы і закусіўшы добра, хочацца пагаварыць уголас, памарыць, успомніць родны кут, які знаходзіўся ў аднаго за Масквой, у другога ў Варонежы, у трэцяга на Дану і г.д.



Зінові Фірсовіч.

— Гэтую чарку я прапаную выпіць, — адазваўся Сярожка, той самы Сярожка, які лячыўся ў гэтай хаце, — за вас, мама, — звярнуўся да Еўфрасініі, — за ўсю вашу сям'ю. Каб не вы, магчыма, што я ўжо ляжаў бы ў зямлі. Дзякую вам за ратунак, за ўсё шчыра вам дзякую. — Апаражніўшы чарку, Сярожа, пачынаючы ад Еўфрасініі і Зіновія, усіх моцна, моцна пацалаваў.

Калі лёгкі шумок у галаве, каму ж не хочацца заспяваць. Еўфрасінія Фірсовіч мела вельмі прыгожы голас. Яна зацягнула задушэўную песню і яе падхапілі і сын Шымон, і партызаны, і дочкі. Жорж Хадзееў, у якога вочы свяціліся, падыгрываў на гітары, і прыгожая песня прабівалася праз шыбы вокан, праз сцены і ва ўсе бакі расплылася на панадворку.

 

# НЯЦКАЕ ПРЫВІТАННЕ БЕЛАСТОЧЧЫНА

— На маёй змене працуе 60 гарнякоў, — кажа штыгар. — Большасць з іх — гэта Беласточчына. А найлепшыя сярод іх — гарняк пшодковы Ян Арлоўскі з Беластока і Лявонь Лаўнічук з Беластоцкага павета.

Мы разам са штыгарам пайшлі да самага пшодка. Тут горача. Паветра з вентылятараў горш сюды даходзіць. Ї таму гарнякі працуюць толькі ў рызінавых ботах, трусіках і касках. На пшодку няма электрычнага святла. Выручаюць гарняцкія ліхтары, замацаваныя ў касках. Найцяжэйшую працу выконвае камбайн. Яго стальныя зубы тнуць вугальную сцяну быццам масла. Пройдзе камбайн : пласт вугалю шырынёй у адзін метр адрэзаны. Пакрышаны вугаль гарнякі кідаюць рыдлёўкамі на ленту транспарцёра. Іншыя зноў падстаўляюць стальныя штэмпелі пад строп. Каб не заваліўся. Усё тут трашчыць, скрыгоча, рухаецца. Страшна глядзець на гэта незвычайнаму. Здаецца вось, вось усё на цябе рухне. А гарнякі працуюць раўнамерна, спакойна. Кожны рух у іх аблічаны, кожны на сваім месцы.

Але што гэта? Замурзаны вугалем твар гарняка нейк ужо вельмі мне знаёмы.

— Адкуль? — пытаю, падышоўшы бліжэй.

— З Лявонявіч, Лявонь Лаўнічук, — адказвае хлапец, паблісюваючы зубамі. — Вас таксама ведаю. Вы ж з «Нівы». Сустракаліся мы ў Лявонявіч, калі яшчэ там быў.

— Вось дык сустрэча, — узрадаваўся я. — 600 метраў пад зямлёй. Ніколі гэтага не спадзяваўся.

— Праца ў нас, як самі бачыце, не лёгкая, але палюбіў яе. Ужо чацвёрты год гарняком.

— А як зарабляеш?

— Чатыры, часам пяць тысяч у месяц.

— Бацькам памагаеш?

— А як жа. Яны ж у мяне, саменькія засталіся ў Лявонявіч. Усё клапоцяцца, баяцца за мяне, каб нешта тут у капальні не здарылася.

— Часцей наведвай, дружа, бацькоў, дык і спакайнейшыя будуць.

— А ўжо ж трэба. На святы мо' неяк дастануся. Ну, але выбачайце. У нас канец года, план. Перавыканаем, прэмія будзе, — засмяяўся Лявонь і зноў прыняўся за фэдрунак.

Пасля васьмі гадзін пад зямлёй лёгка сябе адчуваеш на паверхні. Гэтую лёгкасць яшчэ больш падмацоўвае гарачы туш у раздзявальні.

* ✲ *

Капальня «Сасніца» адна з большых у Забжанскім аб'яднанні. Штодзённа тут выдабываецца каля 7 тысяч тон вугалю. Не малая частка гэтага выдабыцця выфэдравана рукамі гарнякоў з Беласточчыны, хлапцоў ад Белавежскіх лясоў, шырокіх палёў Бельшчыны, Сакольшчыны, Сямяцінкага і Беластоцкага паветаў.

Вечарам хлопцы ўсёй кампаніяй праводзілі мяне да аўтобуса.

— Завязіце нашае гарняцкае прывітанне роднай Беласточчыне, — прасілі.

**ВАСІЛЬ БАРШЧЭЎСКІ**
**Фота: ТАДЭУШ ГЛЮЗА**

**У кожнай капальні існуе аварыйная хуткая дапамога, гатова несці дапамогу, калі гарнякам пагражае небяспека.**



**Гарнякі — пагрузчыкі, таксама з Беласточчыны. Злева: Малкевіч і Харосцін.**

# РАЙКІ, ДЗЕ ВАША СІЛА?

Аб вёсцы Райкі, на Бельшчыне, аб яе ініцыятыўных жыхарах мы пісалі на старонках «Нівы» неаднойчы. За тое, што людзі тут калектыўна, грамадскім чынам пабудавалі такую прыгожую святліцу, мы і ставілі іх у прыклад другім вёскам Беласточчыны. Думалася, што такая святліца станецца сапраўды цэнтрам культурнага жыцця не толькі вёскі, але і аколіцы. Зрэшты, сама ініцыятыўнасць сялян і першыя спробы арганізавання працы ў святліцы (пастаноўкі мясцовага драмгуртка), здавалася, былі залогам гэтага. Але час ішоў, і трэба з прыкрасцю сказаць, што ў Райках пайшла справа дрэнна. Святліца ўсё больш стаецца тут косткай нязгоды паміж жыхарамі вёскі.

Людзі ў вёсцы з пакон вякоў жэняцца, выходзяць замуж. Адны мруць, другія нараджаюцца. Усе гэтыя нагоды традыцыйным звычаем адбываюцца вельмі ўрачыста. Са шматлікімі гасцямі, музыкай, спевам і... гарэлкай. Вясковыя хаты ў нас цеснаватыя, а радні і гасцей, хуткіх на «кілішак хлеба», багата.

І вось у Райках пры такіх нагодах пачалі заглядацца на святліцу. Яна ж такая прасторная, чаму ж, маўляў, не выкарыстаць яе на хрэсьбіны ці вяселле.

— А чаму ж бы нам не падзарабіць на вынайме святліцы? — вырашыла светліцовая рада.

Тут і пачалося. Адны, так сказаць, добраахвотна плацілі за вынайм святліцы на даную ўрачыстасць, — хто па 50, а хто і па 100 злотых, — але другія зацяліся.

— Як, — кажуць, — мы пры ёй столькі напрацаваліся, а цяпер яшчэ маем плаціць? Падумаеш, вясельнікі вокны паб'юць, ці крэслы паломяць! Ад гэтага і ёсць светліцовы. Няхай пільнуе. Яму ж і даверылі гэта.

Калі светліцовы дарэмшчыкам не даваў ключоў, даходзіла да лаянак, кулакоў і бойкі.

Згуртаваныя некалі пры пабудове святліцы жыхары Райкаў сталіся заўзятымі ворагамі. Чалавек на чалавека пачаў глядзець ваўком. А ў пракуратуру пасыпаліся даносы, заявы і скаргі.

Пабудаваная так вялікімі намаганнямі і самаадданай працай святліца перастала іх радаваць. Перастала іх цікавіць.

Некаторыя гавораць, што вінаватая ва ўсім светліцовая рада.

— Няхай, маўляў, рада не пазваляла б на спраўлянне вяселляў у святліцы і ўсё было б у парадку.

На маю думку, не ў гэтым прычына. Я б нават сказаў, што сама ідэя адбывання ў святліцы такіх традыцыйных урачыстасцей, як вяселле, цікавая і слушная. У Савецкім Саюзе, напрыклад, даволі часта вясковыя клубы выкарыстоўваюцца ў гэтых мэтах. Толькі ў такім выпадку сама форма вяселля абавязкова павінна мець выхаваўчы характар. На жаль, ведаем, што робіцца на нашых традыцыйных вясковых вяселлях. Калі гарэлка пальецца морам, затуманіць розум вясельнікам, не чакай дабра... Грубыя, бескультурныя словы, лаянка, а неаднойчы і бойка, усё яшчэ ў многіх выпадках з'яўляюцца неад'емнымі рэчамі вяселля.

У ліквідацыі гэтай старой ды вельмі дрэннай традыцыі светліцовая рада разам з гуртком БГКТ, маладзёжнай і партыйнай арганізацыямі можа адыграць не малую ролю. Чаму, напрыклад, на сходзе не абмеркаваць паводзіны на вяселлі таго, ці іншага члена арганізацыі. А калі трэба дык і прыкладна пакараць яго за бескультурнасць. Ці гэта дапаможа? Несумненна так. Бо каму гэта прыемна, калі яго паводзіны назавуць публічна бескультурнымі?

Тады нават і вясельныя ўрачыстасці набяруць выхаваўчага характару. Будуць збліжаць людзей да сябе і ўмацоўваць сужыццё калектыва.

Вельмі няправільна, калі светліцовая рада, вынаймаючы святліцу, бярэ пад увагу толькі матэрыяльны бок (колькі нам за гэта заплацяць), забываючыся аб шмат важнейшым — выхаваўчым.

Святліца, зразумела, не можа існаваць толькі для вясельнікаў. Усе гэтыя традыцыйныя ўрачыстасці не могуць перашкаджаць іншым багатым формам культурнай дзейнасці.

У Райках і аколіцы ёсць жа столькі таленавітай моладзі.

Надышла зіма, найлепшы час да развіцця культурнай дзейнасці. Як жа можна абыякава глядзець на тое, што дзеецца ў вёсцы.

Няма адпаведнага рэпертуару? Ад гэтага ёсць Павятовы дом культуры ў Бельску і яго парадня. Несумненна, што і павятовы Аддзел БГКТ не будзе абыякавы да патрэб жыхароў Раек у галіне развіцця культуры. А ў доўгія зімовыя вечары можна з цікавасцю паслухаць гутарку лектара на тую ці іншую тэму.

Пры Галоўным праўленні таварыства існуе лектарская група. У павеце таксама шмат лектараў. Калі ласка, давайце запатрабаванні.

**В. БОНДАР**

# МАСТАЦКІЯ КУРСЫ

**(Працяг са стар. 3)**

Усе ўдзельнікі былі задаволены курсам. Сведчыць аб гэтым размова праведзеная кіраўніцтвам курса з курсантамі на заканчэнне.

«Курс падабаўся, — гаворыць Марыя Мышко, — таму што былі свае дзяўчаты і хлопцы. Гэта стварыла цёплую і сардэчную атмасферу. Мы навучыліся спяваць многа песень. Значная частка з іх — гэта песні новыя».

«Вельмі нам спадабаліся песні, танцы, вечарынкі, — сцвярджае Люба Куптэль. — Вечарынкі падабаліся таму, што былі ўсе ў вясёлым настроі. Гэта стварыла добрую атмасферу. Вечарынкі былі інакш сарганізаваныя чым у нас на вёсцы, дзе апрача танцаў нічога няма. Не былі яны манатонныя, адчувалася жыццё.»

Сябра Мартыновіч — стараста групы — больш крытычна выказваўся, аднак гэта не перашкаджае яму адабрыць курс, аб чым сведчаць яго словы: «Шкада, што не было Гудоўскага, таму што многія выстаўляюць п'есы і ў многіх выпадках не ведаюць, як захоўвацца на сцэне, як рабіць дэкарацыі, касцюмы і многа іншага. Гэта тэма вельмі патрэбная. Не гледзячы аднак на недахопы курс быў карысны. Падкрэсліць трэба цёплую і сардэчную атмасферу, якая ўплывала на самаадчуванне».

Анатоль Мартыновіч ад імя ўдзельнікаў курса злажыў падзяку ГП БГКТ, што клапоціцца аб павышэнні ўзросту мастацкага руху на вёсках. На пытанне: — Хто з вас зможа выкарыстаць веды здабытыя на курсе ў сваёй вёсцы? — быў адказ: — Усе.

З усіх выказванняў вынікае, што падобныя курсы вельмі карысныя і іх трэба праводзіць. ГП БГКТ на падставе вопыту з адбыўшыхся курсаў са свайго боку будзе намагацца, каб курсы, якія будзе арганізаваць, былі лепш падрыхтаваныя і цікавыя. Надзеемся, што ў будучыні ўсе месцы на курсе будуць выкарыстаны.

**Кіраўнік арганізацыйнага аддзела ГП БГКТ**
**Мгр МІКОЛА ЛОБАЧ**

* ✲ *

У гэтай старэнькай хаце, якая заўсёды была гасціннай для партызан, жыве зараз толькі Насця са сваім 76-гадовым бацькам. Яны, як і іншыя земляробы, належна выконваюць перад дзяржавай свае гаспадарскія абавязкі, цікавяцца новымі метадамі апрацоўкі зямлі, чытаюць розныя часопісы, у тым ліку і наш штотыднёвік «Ніву».

Маці Насці ўжо памерла. Сястра Надзя і брат Шымон працуюць у Беластоку на адказных пасадах. Часам са сваімі сем'ямі наведваюць яны родны бацькоўскі кут.

Нядаўна і мне давялося наведаць хату Фірсовічаў, якая знаходзіцца, як называюць у Відаве, на калёніі ў Бабіне. Мы пазнаёміліся і хутка паплыла ў нас гутарка аб мінулых днях. Насця цікава, з вялікім хваляваннем, расказала аб неспакойных гадах жыцця. Яна яшчэ раз праглядала сама і паказала мне партызанскія пасведчанні. У адным з іх напісана: «Зіновій Фірсовіч быў партызанскім сувязным. Прахоўваў ён у сваёй хаце партызан. Партызаны атрымалі ад Фірсовіча 50 кг мяса і 100 кг хлеба.»

Другое пасведчанне падобнае. Яно прыслана з Мінска 1.X.1944 г. Між іншым у ім напісана «Анастасія Фірсовіч была сувязной партызанскіх атрадаў імя Пархоменкі і імя Дзяржынскага. Яна пераказвала патрэбныя партызанам весткі і перадала ім адзін карабін».



**Насця Фірсовіч.**

Гляджу я на Насцю і яе бацьку і сам сабе ў думках гавару: адданыя гэта людзі.

Вось менавіта, такія людзі набліжалі вызваленне нашай краіны. Каб такіх мужчын і жанчын было многа ў кожнай вёсцы, у кожным мястэчку і горадзе, тады менш пацярпеў бы гора наш народ ад гітлераўскіх захопнікаў.

Аднастайна цікае на стале гадзіннік. Б'е ў акно золкі вецер. Насця і яе бацька любяць такія дні і такія вечары. Колькі думак у іх з'яўляецца тады. Колькі ўспамінаў праплывае перад імі.

— Дзе ж вы цяпер баявыя рускія партызаны? — вырываюцца словы ў Насці. — Дзе ж ты цяпер Сярожка? Ці спаткаўся са сваёй роднай маці, якую ў гарачцы так суцяшаў, калі ляжаў у нас хворы на ложку за печчу.

У гэтай хаце ведаюць, што некаторыя знаёмыя ім партызаны не дачакаліся перамогі над гітлераўцамі. Палажылі яны галовы за тое, каб нам цяпер добра і спакойна жылося. Каля Цеханоўца загінуў адважны і ўсімі партызанамі паважаны іх таварыш і добра знаёмы Фірсовічам Тамаш Грабяж (такі яго быў псеўданім). Загінула многа і іншых партызан. Спіце ж спакойна родныя. Вас ніколі не забудуць тыя, хто вольным і шчаслівым гаспадаром ходзіць па зямлі. Вашу справу надзейна бярэ ў свае рукі маладая, жыццяздольная, загартаваная змена.

**М. ХМЯЛЕЎСКІ**



 

# Трыбуна чытачоў

## Што чуваць у міхалоўскіх стражакаў

Міхалоўская пажарная каманда існуе шмат год і налічвае 18 стражакаў. Узначальвае іх Юзэф Акштоль. За гады сваёй дзейнасці каманда мае не малыя дасягненні. Наколькі я помню, выратавала яна ад пажару 10 будынкаў і цагельню. Вялікія дасягненні мае таксама ў ратаванні лясных масіваў.

Жадаем ім далейшых поспехаў у карыснай дзейнасці.

**Ян Амброжэй**
Кабылянка

## З жыцця Варшаўскага Аддзела БГКТ

У апошні час у Аддзеле беларускага Таварыства ў Варшаве адбыліся наступныя мерапрыемствы.

Літаратурны вечар прысвечаны пяцідзесятай гадавіне з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта Максіма Танка. З дакладам аб жыцці і творчасці паэта выступіў мгр Аляксандр Баршчэўскі. Вершы з ранняга перыяду, вершы прысвечаныя Польшчы, а таксама новыя вершы Максіма Танка чыталі Анна Багроўская, Яша Бурш, Рычард Адамовіч і Віктар Швед.

* ✻ *

Аўтарскі вечар сучаснага маладога польскага паэта Уладзіміра Сэгаля (Блятгона). Паэт прачытаў шмат сваіх вершаў, а таксама пераклады паэзіі свайго дзядзькі — М. Танка на польскую мову. Адбылася цікавая дыскусія над сучаснай польскай паэзіяй.

* ✻ *

У сувязі з васьмідзесятай гадавінай з дня нараджэння вялікага класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы адбыўся ўрачысты літаратурны вечар. З дакладам выступіў мгр Аляксандр Баршчэўскі. Вершы Я. Купалы чыталі Ніна Гайлевіч, Балеслаў Манкевіч і Віктар Швед.

* ✻ *

Адбылося абмеркаванне часткі магістэрскай працы абсальвента кафедры Беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце Мікалая Лобача на тэму: «Эстэтычныя погляды Максіма Багдановіча». Праца М. Лобача выклікала жывое зацікаўленне. На просьбу слухачоў М. Лобач расказаў аб жыцці і творчым шляху паэта.

**В. Ш.**

## ЗМВ у Навінах

Арганізацыя ЗМВ у Навінах існуе ўжо паўгода. За гэты час моладзь Навін многа ўнесла працы ў развіцці арганізацыі. Члены ЗМВ сарганізавалі гурток БГКТ, а таксама мастацкі гуртох, які пачаў добра працаваць.

Першы раз са сваёй праграмай выступілі ў роднай вёсцы. А калі ўсё добра пайшло, пачалі выязджаць у другія вёскі, як напрыклад, Курашава, Катлоўку, Кавелу. Цяпер гэты гуртох хоча змяніць праграму, і калі ўсё пойдзе добра, зноў загляне ў суседнія вёскі. Цяпер навінска моладзь хоча падрамантаваць і наняць святліцу ў аднаго гаспадара, якая для моладзі вельмі патрэбна.

**Вася Аксэнцюк**

## На школьнай плошчы

У 1961 годзе вёска Ляшукі атрымала прыгожую, новую школу. Зараз пасля заканчэння работ пры будове, вучні і часткова бацькоўскі камітэт пад кіраўніцтвам настаўнікаў распачалі парадкаваць школьны пляц: зносілі ў гурбы акрушыны цэгел, астаткі дошак прыводзілі да парадку, а нават рабілі новыя спортпляцоўкі. За першы год даволі многа зрабілі, але яшчэ больш зроблена ў мінулым годзе. За восень старэйшыя вучні пад кіраўніцтвам загадчыка школы Аляксандра Харкевіча і настаўніцы Зіны Бушко, выканалі прыгожыя дарожкі вакол школы і на пляцу. Пры дапамозе ГРН у Ляўкове Старым на гэтыя дарожкі навезена гравія. Часткова яны абсаджаны дрэўкамі. У падобны спосаб выканана бегавая дарожка на 60 м. у чатыры палоскі. Ля школы ёсць і клумбы з кветкамі. Вясной запланавана пляц засеяць травой.

Прыемна, едучы ля школы, зірнуць на яе загаспадараваны пляц. Бідаць адразу, што тут працавітыя вучні і настаўнікі, але ў грудзях пачынае балець, калі позірк падае на стары драўляны плот месцамі падперты калкамі, а пасля вялікага ветру неадна разова проста ляжыць на зямлі. І тут трэба было б прыпомніць зацікаўленым установам, каб прышлі школе з дапамогай. Многа мог бы дапамагчы бацькоўскі камітэт і ўсё насельніцтва. А ў будучым мець на ўвазе тое, што калі будуецца новы прыгожы аб'ект, у плане трэба прадбачыць сродкі на загаспадараванне яго ў планавы спосаб.

**АЛІК ХАРКЕВІЧ**
Ляшукі

## Кінафільм «Васкрэсеніе»

Вялікай папулярнасцю цешыўся ў ас. Нараў, Гайнаўскага павета, савецкі кінафільм у двух серыях — «Васкрэсеніе». На ўсіх сеансах гэтага фільма, а адбываюцца яны тут у сераду і нядзелю, зала святліцы ў асадзе Нараў была перапоўнена гледачамі. Сюды прыйшлі паглядзець кінафільм жыхары навакольных вёсак: Макаўкі, Аньцут, Храбустоўкі і другіх. Кінафільм «Васкрэсеніе» дэманстраваўся таксама ў вёсках: Чыжах, Навасадах, Нараўцы (Гайнаўскі павет). Агулам кінафільм «Васкрэсеніе» у асадзе Нараў, у Чыжах, Навасадах і ас. Нараўцы глядзела звыш 2 тысяч гледачоў.

**Янка Цялушэцкі**

## ПІЛЬШЧЫКІ



Кожнаму гаспадару патрэбныя дошкі. Неабходныя яны і на загарадзь у хляве, і на загароджу, і да шмат чаго іншага. Вось таму можна ўбачыць на панадворках сялян столкі, на якіх ляжыць кусок дрэва да пілавання на дошкі або штыхеты. Падоўжняю пілою пілуюць пераважна тры асобы, дзве знізу, а адна ўверсе.

На здымку Мікола і Павел Гайко (унізе), а таксама Сямён Гайко (уверсе) з вёскі Быстры на Бельшчыне выпілоўваюць штыхеты.

## І ў нас звіняць сталёвыя жылы

Многа ўжо перамен адбылося ў жыцці нашай вёскі за часоў народнай улады. Новае ўсё часцей стукае да нас у дзверы.

Вось нядаўна па сталёвых і звінячых жылах прыплыло да нас святло. Асвяціла яно цёмныя куты сялянскіх хат і сумную вуліцу. Жыццё аднавяскоўцаў адразу павесялела. Многія пачалі купляць радыёпрыёмнікі і сціральныя машыны.

Наш сельгасгуртох таксама хоча выкарыстаць электрычную энергію. Плануе купіць электрычныя рухавікі.

Святло — гэта яшчэ адзін штуршок у напрамку развіцця сельскай гаспадаркі.

**Юрка Скепка**

## НЕДАВЕР НАЛЕЖЫЦЬ УЖО ДА МІНУЛАГА

Як у многіх іншых вёсках так і ў Паўднёвым Востраве на Сакольшчыне існаваў недавер адносна карысцей, якія прыносіць для сялян сельскагаспадарчы гуртох. Але гэта належыць ужо да мінулага. Нядаўна арганізаваўся там з 17 членаў сельгасгуртох. На старшыню гаспадары выбралі паважанага ў вёсцы чалавека Уладзіміра Бондара.

На арганізацыйным сходзе было пастаноўлена купіць малацільны агрэгат. Ад гэтага пачынаюць у Востраве механізацыю сельскагаспадарчых работ. Пройдзе нейкі час і на палях будуць ракатаць трактары, будзе ў вёсцы многа сельскагаспадарчых машын. Гэта будзе таму, што з фонду развіцця сельскай гаспадаркі на Паўднёвы Востраў прыпадае амаль што паўмільёна злотых.

**мх**

## Алесь Барскі членам СПП

Нядаўна папулярнага нашага паэта Алеся Барскага (Аляксандра Баршчэўскага) прынялі ў члены Саюза польскіх пісьменнікаў. З гэтай нагоды сардэчна віншуем Алеся і жадаем яму далейшых творчых поспехаў.

## Камінары чысцяць сялянскія кішэні

На жаль, так трэба сказаць аб камінару з Гайнаўкі, які нядаўна наведаў Альхоўку. Яго зусім не цікавілі коміны, толькі сялянскія кішэні. Ён заходзіў у паасобныя хаты і выманьваў грошы за «ачыстку комінаў». А калі хтосьці не хацеў плаціць, дык пужаў калегіяй.

Гэтым і закончыліся яго прафесіянальныя абавязкі. Чалавека ахоплівае абурэнне, што гэты камінар мог так бяскарна паступаць. Гэта ж урэшце завецца зладзействам. Ганебнай практыцы трэба палажыць канец.

**«Безіменны»**




**Дарагое СЭРЦАЙКА!**

Я выходзіла замуж за Валодзю з кахання. Хадзілі мы з сабою два гады. Спярша жыццё нашае ўкладвалася вельмі добра. Дзяцей яшчэ мы не маем. Я ў мінулым годзе разам з ім хадзіла ў драматычны гурток, які існуе ў нашай вёсцы. Кіраўнік казаў, што я вельмі здольная і таму мне прыдзяліў найлепшыя ролі. Я цяпер не хаджу, бо падумала, на што мне гэта патрэбна, я ж замужняя. А мужа не магу ніяк нагаварыць, каб кінуў гэты гурток, няхай належаць да яго дзяўчаты і хлопцы, а не жанатыя. І вось у нас па гэтай справе ўсё спрэчкі. Муж уцякае ўсё на рэпетыцыі і вечарынкі (якія яны самі арганізуюць), перастаў мною займацца і захапляцца, як раней, а да таго ўсё бурчыць, што ніколі не апрануся чысценька і прыгожа, як раней. Але, Сэрцайка, ці ж можна ў хаце прыгожа апрануцца, калі заўсёды ёсць работа? Парай, Сэрцайка, як яго пераканаць, каб быў дома разам са мною і як ізноў здабыць яго сэрца, я ж яго і надалей кахаю.

**Зіна**
Бельскі павет

Паважаная Зіна!

На жаль, ты не маеш рацыі, а мае яе твой муж. Вы ж маладыя, дзяцей не маеце, дык чаму ж не належаць да гуртка, гэта ж культурная разрыўка. А каб здабыць сэрца мужа, дык павінна ты не адмаўляць мужа, а сама з ім ізноў вярнуцца да гуртка. Тады будзе і патрэба прыгожа апрануцца, задбаць пра сябе, тады і муж будзе ізноў цікавіцца табой. Не будзе ўцякаць з хаты, а будзе разам хадзіць на рэпетыцыі і вечарынкі, і жыццё вашае будзе ізноў вясёлым, як раней.

Усяго добрага

**СЭРЦАЙКА**

## КІНО

Праграма

на 14.I. — 20.I. 1963 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Aby kwitło życie" (polski), 15—17. ;„Ruda Julka" (franc.), 18—20.

**Кляшчэлі**
„Bitwa o Kozi Dwór" (polski), 15—17. „Marynarz z Komety" (radz.) 18—20.

**Навасады**
„Koniec drogi" (bułgarski), 19—20.

**Нараў**
„Pragnienie" (rumuński), 16—20.

**Нараўка**
„Tomcio Paluch" (meksykański), 16—20

**Чаромуха**
„Tragiczny zamach" (jugosł.), 15—17. „Historia żółtej ciżemki" (polski), 18—20.

**Чыжы**
;„Tajemnica starej kopalni" (angl.), 16—20.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Gorsza miłość" (węgierski), 16—20.

**Бранск**
„W. I. Lenin" (radz.), 15—17. „Ożeniłem się z czarownicą" (USA) 18—20.

**Гродзіск**
„Herszt" (franc.), 19—20.

**Орля**
„Jewdokia" (radz.). 16—20.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Poławiacze gąbek" (radz.), 15—17. „Rrzeczywistość" (polski). 18—20.

**Міхалова**
„Śladami Ikara" (radz.), 15—17. „Dom bez okien" (polski) 18—20.

**Супрасль**
„Na scenach świata" (rumuński), 15—17. „Marynarz z Komety" (radz.) 18—20.

**Чорна Беластоцкая**
„Tajemnica zielonego boru" (radz.), 15—17. „Dwaj panowie N" (polski), 18—20.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Z soboty na niedzielę" (angl.), 15—17. „Noc poślubna" (polski), 18—20.

**Мілейчыцы**
„Bitwa o Kozi Dwór" (polski), 15—17. „Teresa prowadzi śledztwo" (czeski), 18—20.

**Нурэц**
„Przeżyłem swoją śmierć" (czeski), 15—17. „Dziewięć dni jednego roku" (radz.), 18—20.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Mały marzyciel" (radz.), 15—17. „Jutro premiera" (polski), 18—20.

**Сухаволя**
„Champion" (USA), 15—17. „Z iskry rozgorzeje płomień" (radz.), 18—20.

**Шудзялава**
„Profesorek" (franc.) 16—20.

**Янаў**
„Koncert gwiazd" (radz.), 15—17. „Komedianty" (polski) 18—20.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Drzwi stoją otworem" (jugosł), 19—20.

**Новы Двор**
„Słońce wschodzi nad Bengalem" (pakistański) 19—20.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 łz. półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $. w Europie 5 $ — w USA.
Nakład 5000. Bltk F-3






# АРЫСТАКРАТКА

Скажыце, людзі мілыя, за якім печаным чортам сяляне ў горад ездзяць?

У вясковых гээсах тавараў хапае, у гарэлцы недахопу не адчуваецца, папярос з запалкамі тольк і, што дзесяць вёсак спаліць можна, а людзі ўпарта ў горад цягнуцца.

Нейк і наш Кастусь у горад выбраўся, не падазраваючы, што ад гэтага цэлая гісторыя пачнецца.

Ідзе, значыць, Кастусь па гарадской вуліцы, а насустрач яму дамачка сунецца і левым вокам моргае. А трэба сказаць, дамачка была магутная, губы — маліна, бюст на два моргі і навокал дамачкі прыемны арамат расходзіцца. Проста здзіўляцца даводзіцца, як гарадскія арыстакраткі прыемна пахнуць.

Зварочвае арыстакратка ў папярэчную вуліцу, а Кастусь за ёй. Забягае Кастусь наперад, а арыстакратка з еўрапейскім выглядам правым вокам моргае. Тут Кастусь перад арыстакраткай раскланьваецца:

— Выбачце вялікадушна, я — Кастусь, патомны хлебароб, вясковы жыхар. І чым заслужыў вашу ўвагу — не ведаю.

— Тут не вёска, каб зачапляць слабы пол, — адзываецца арыстакратка. — Куды ідзеш, туды і каціся!

Кастусь упіраецца, вытлумачэння патрабуе, а дамачка кліча праходзячага міліцыянера і просіць дапамогі супраць агрэсара.

Зразумела, справа высветлілася. Прытрымліваючыся правіл вулічнага руху, арыстакратка моргала, даваючы зразумець прахожым, у які бок зварочвае.

Пасля гэтага выпадку ў Кастуся гвоздзем засела думка аб застасаванні сігналізацыі для бяспечнасці пешаходаў.

Тры дні не вылазіў з хаты Кастусь, майстраваў, а потым аб'явіў, што ў святліцы дэманстраваць будзе індывідуальнае дасягненне.

У назначаны дзень людзей таўпілася ў святліцы, бы на дармовым фільме.

І падумаць толькі, мілыя чытачы, пры дапамозе адной батарэйкі з кішанковага ліхтарыка, чалавек можа пазбегнуць небяспекі на нашых дарогах.

Кастусь паказаў, як пры паваротах запальваюцца жоўтыя лямпачкі, як пры затрымцы запальваецца ззаду чырвоны агеньчык, так, што наехаць на чалавека ніякі шафёр не мае права.

Людзі апладзіравалі Кастусю, а што самае здзіўляючае, у святліцы прысутнічала гарадская арыстакратка.

Выявілася, што гэтая грамадзянка па паходжанні была з нашай вёскі, нават была сваячкай маёй кумы.

Неўзабаве адбылося вяселле Кастуся з гэтай грамадзянкай. А гэта сведчыць, што ніякая сігналізацыя не ахоўвае людзей ад небяспекі.

А самае галоўнае, людзі добрыя, што ў наш час знікаюць супярэчнасці паміж горадам і вёскай, дзякуючы чаму, сустракаючы ў горадзе нашых дзяўчын, прымаем іх за арыстакратак.

Дзядзька Лявон

**У АБУТКОВЫМ МАГАЗІНЕ**



— Вось гэта дык мужчына! Дала яму сорак першы нумар замест сорак трэцяга і нават не застагнаў...

---

### ПАСЛЯ ЭКЗАМЕНА

Вучань тэлеграфіруе маці:

«Праваліў экзамен, падрыхтуй бацьку».

На другі дзень атрымлівае адказ:

«Бацька падрыхтаваны. Цяпер ты падрыхтуйся».

✻

### НЕ ПАМЯТАЕ

— Дзядуля, ці памятаеш ты жанчыну, якую першы раз пацалаваў?

— Дарагі ўнучак, я ўжо не помню апошняй.

✻

### ЕХАЎ ПЯШКОМ

«Усю дарогу я вымушаны быў ехаць пяшком, бо вольных месц у аўтобусе не было».

(З кнігі скаргаў)



Для большай дакладнасці.

### НЕЗНАЁМАЯ

Адзін малады чалавек, вырашыўшы парваць з кавалерскім станам, падаў у газету наступную аб'яву: «Мая ты прыгожая незнаёмая! Не асмеліўся цябе зачапіць у аўтобусе. Ад гэтага часу думаю толькі аб табе. Малю цябе, злітуйся нада мною. Чакаю пад нумарам 15-488».

Прышло 700 адказаў.

### НЯМА ЧЫМ ХВАЛІЦЦА

— Мая бабуля жыла 90 год! — гаворыць С.

— Нічога асаблівага, — адказаў К. — Адзін з маіх дзядзькаў жыў 112 год і 7 месяцаў!

Прахожы, які чуў гэтую гутарку, сказаў:

— Не маеце чым хваліцца. Я маю сваякоў, якія яшчэ наогул не памерлі.

# КУРЫНАЕ ДАВЕР'Е

**Лісу судзілі калектывам куры**
**За тое,**
**Што ад лісінай дыктатуры**
**Даводзілась спраўляць хаўтуры —**
**За дзень адны, а то і двое.**
**У справе ясна ўсё было хахлатым:**
**Ліса бясспрэчна вінавата.**
**І толькі певень — хлопец бравы —**
**Ці каб набыць сабе больш славы,**
**Ці проста здуру,**
**Пачаў прамову:**
**«Што вы, куры!**
**Нам нельга жартаваць з агнём,**
**Нам нельга супраць зла змагацца злом**
**І падрываць гуманнасці асновы...»**
**Лагодныя пасыпаў Певень словы**
**(На гэта быў ён, прыгажун, мастак)**
**І красамоўна скончыў так:**
**«У свеце юрыдычнае навукі**
**Лісу,**
**Калі ўжо што...**
**Дык ёсць парукі».**

* ✻ *

**Ліса гуманнасць зразумела**
**І ў знак павагі да суда**
**У хуткім часе Пеўня з'ела.**
**...Не Пеўня, а курэй шкада.**

**Анатоль ГАЛЧАНАЎ**

---

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

Па просьбе **Людмілы Кірылюк** з Гайнаўкі змяшчаем рускую народную песню

## Вечерний звон




**Вечерний звон, вечерний звон!**
**Как много дум наводит он!**

**О юных днях в краю родном,**
**Где я любил, где отчий дом.**

**И как я, с ним навек простясь,**
**Там слушал звон в последний раз!**

**И многих нет теперь в живых,**
**Тогда веселых, молодых!**

**Вечерний звон, вечерний звон!**
**Как много дум наводит он!**

---

**КАРНІЛАЎ**

# БАНДЫТ

Гадзіна была позняя. У цёмных завулках чуліся нейкія пагрозлівыя адгалосы. Падзёртыя як анучы хмары ўдалі сумныя цені. Я плячыма адчуў, што нехта ідзе за мною. Вуліца была пустая. Ані следу стаража ці міліцыянера. Раптам сэрца ёкнула. Кінуўся бегчы, але чуў, што нехта за мною тупае, падскоквае і цяжка сапе. Пры самым пад'ездзе ён сталёвай рукой быццам абцугамі ўпіўся мне ў плячо.

— Грошы! — засычаў.

У поцемках я не мог разгледзець твару бандыта, але голас яго выдаўся мне знаёмы.

Я аддаў грошы. Бандыт пералічыў іх і, дзвэнкаючы жалезнякамі, уваліхнуў мне ў руку дзве халодныя манеты. Яшчэ дагэтуль я ніколі не быў ахвярай бандыцкага нападу, але прызнаюся па шчырасці, што зусім не спадзяваўся, каб у такую хвіліну давалі здачы.

— Хаця б з прычыны маладога ўзросту... — пачаў я асцярожна.

— Аб гэтым пагаворым на сходзе секцыі прафсаюзаў, — перарваў бандыт.

Я дакладней прыглядзеўся бандыту. Божа! Чаму ж я яго не пазнаў адразу. Гэта быў старшыня нашай прафсаюзнай арганізацыі.

Мною злосць страсянула:

— Дык гэта так паступаецца з актыўным членам?

— Не крычы людзей разбудзіш, — кажа. — Дай мне іншы спосаб на сцягванне ад вас прафсаюзных складчын. На, вось, падпішы. Часу ў мяне няма дыскутаваць з табою, — сказаў спакойна, быццам нічога не здарылася. А пасля ўтаропіўся ў спісак.

— Трэба бегчы. Сёння яшчэ маю ў плане пяцёх такіх як ты актыўных.

Пераклад **В. Бондара**

